*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 49(434) 8 СНЕЖНЯ 1999 г.

**ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**Аб унясенні дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь Аб адміністратыўных правапарушэннях.**
**Прыняты Палатай прадстаўнікоў 28 кастрычніка 1999 года.**
**Адобраны Саветам Рэспублікі 18 лістапада 1999 года.**

1. Дапоўніць Кодэкс артыкулам 172.2 наступнага зместу:

**"Артыкул 172. 2.** Парушэнне заканадаўства аб мовах.

Публічнае зняслаўленне дзяржаўных і іншых нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва Рэспублікі Беларусь, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі

– цягнуць накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад дзвюх да пяці мінімальных заработных плат, на службовых асоб – у памеры ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат".

**Дырэктару Інстытута мовазнаўства НАН РБ акадэміку А.Падлужнаму**

## Шаноўны спадар Аляксандр!

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сардэчна віншуе калектыў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа з 70-ымі ўгодкамі з дня заснавання. Мы ганарымся, што ў гэтай навуковай установе працавалі такія выбітныя навукоўцы як Сцяпан Некрашэвіч, Язэп Лёсік, Ігнат Дварчанін, Кандрат Крапіва (Атраховіч). Пад час юбілею мы не можам не ўзгадаць і пра важкі ўнёсак ва ўнармаванне беларускае літаратурнае мовы слыннага дзеяча мовазнаўчае навукі, правадзейнага чальца АН БССР Браніслава Тарашкевіча.

70 гадоў для дзейнасці навуковае ўстановы – узрост быццам бы і замалы, але ў кантэксце гісторыі нашае краіны гэтыя гады былі занадта няпростымі, як для лёсу беларускае мовы ўвогуле, так і для Інстытута ў прыватнасці. Пра тое сведчыць і сённяшні стан нашае мовы, якая ў незалежнай беларускай дзяржаве апынулася падчаркай. На вялікі жаль, ёю грэбуюць ды зневажаюць нават на самым высокім узроўні, ва ўладных структурах. І таму ад ролі ды пазіцыі Інстытута зараз залежыць, з чым мы прыйдзем у наступнае тысячагоддзе.

Гэтым юбілейным годам, як і надалей, Таварыства беларускае мовы жадае калектыву Інстытута плёну і трывалай ў вырашэнні актуальных праблемаў беларускае мовы. Спадзяёмся, што ўсведамленне адказнасці за нашую агульную будучыню дазволіць вам праз усё жыццё з годнасцю пранесці імя беларускага мовазнаўцы.

Жыве Беларусь!

*Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф.Скарыны.*
*21 лістапада 1999 г.*

**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Фяськову М.С.**
**Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Сп.Трусаву А.А.**

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама разгледзела заяву Раманцова У.І. і паведамляе наступнае.

Па заяве праведзена праверка. Факты, выкладзеныя ў заяве, у асноўным пацвердзіліся. Сапраўды, у школе-ліцэі № 16 дапускаліся парушэнні ў выкладанні асобных прадметаў у 6-ым беларускамоўным класе.

Адміністрацыі школы, аддзелу адукацыі адміністрацыі Фрунзенскага раёна ўказана на недапушчальнасць падобных фактаў у сваёй рабоце.

З пачатку 2-ой чвэрці выкладанне ўсіх прадметаў, акрамя матэматыкі, у беларускамоўным 6 класе будзе ажыццяўляцца па-беларуску.

Нам. начальніка ўпраўлення Р.В.Махнач.
Новікава 2272501.

## У Шальчынінкаі – помнік Кастусю Каліноўскаму

"За нашу і вашу свабоду!" – так гучаў лозунг, пад якім змагаліся за вызваленне з маскоўскага ярма Кастусь Каліноўскі і яго паплечнікі. У Шальчынінкайскім раёне ў яго было шмат аднадумцаў і прыхільнікаў. Свае артыкулы К.Каліноўскі падпісваў: "Яська, гаспадар з-пад Вільні".

Таму і з'явілася ідэя стварыць пад Вільняй помнік Каліноўскаму. Гэтую ідэю даводзіў да жыцця Беларускі культурны цэнтр у Салечніках, якім кіруе Пётр Малафей.

Помнік К.Каліноўскаму стаў у цэнтры Салечнікаў. Гэта велізарны мясцовы валун, на якім замацаваны барэльеф К.Каліноўскага. Аўтар помніка -- вядомы беларускі скульптар Валяр'ян Янушкевіч.

У канцы лістапада адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка. Шмат слынных гасцей, прадстаўнікоў Летувы, Польшчы, Беларусі прыбыло на гэтую ўрачыстасць. Уступным словам цырымонію адкрыў старшыня Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый Лявон Мурашка. Затым слова прадставілі мэру раёна Юзаву Рыбаку. Ён адзначыў значэнне барацьбы К.Каліноўскага для нашых пакаленняў і назваў гэты помнік – помнікам свабоды.

Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Летуве Уладзімір Гаркун у сваёй прамове адзначыў гістарычнае значэнне дзейнасці Кастуся Каліноўскага. Паводле яго словаў, Кастусь Каліноўскі першым стварыў праграму барацьбы з царызмам і каардынаваў гэтую барацьбу. Ён марыў пра стварэнне незалежнай дзяржавы, пакінуў вялікую культурную і публіцыстычную спадчыну. Пасол адзначыў, што ідэю стварэння помніка адразу падтрымлівалі ў Беларусі і летувіскія ўлады. Ён падзякаваў за падтрымку мэра раёна і ўлады самакіравання.

Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел і выступілі Генеральны дырэктар дэпартамента па справах нацыянальных меншасцяў і эміграцыі пры ўрадзе Летувы Р.Матузас, дарадца пасольства Польшчы Павел Цесляк, віца-консул Вальдамар Мулярчык, стваральнік помніка В.Янушкевіч і іншыя прадстаўнікі трох рэспублік.

Пасол В.Гаркун і мэр Ю.Рыбак разрэзалі стужку і знялі пакрывала. Помнік адкрыты. Шматлікія госці і жыхары горада ўсклалі да помніка вянкі і кветкі.

У Салечніках – гэта другі помнік. Летась у гэты ж час тут быў адкрыты помнік А.Міцкевічу.

***Пётр Рынгевіч.***

**На здымках:** ксёндз – пробашч Юзаф Наркун асвячае помнік: злева направа прадстаўнік Міністэрства культуры Беларусі Галіна Суша, старшыня аб'яднання былых палітвязняў Вільні Аляксей Анішчык і скульптар, акадэмік Беларускай Акадэміі мастацтваў Валяр'ян Янушкевіч.

Фота аўтара.

Шаноўнае спадарства!

Мы прадаўжаем чарговую падпісную кампанію. Газета "Наша слова" размешчана на старонцы 23 "Каталога 2000, першае паўгоддзе, газеты і часопісы Рэспублікі Беларусь, выданні краін СНД, што распаўсюджваюцца па наўпростаых дамовах".

Праўда, гэты каталог выйшаў са значным спазненнем, а ў папярэднім, часовым каталогу нас не было. Тым не менш, сёння рэальная магчымасць падпісацца на "Наша слова" ёсць, хоць ёсць і цяжкасці. На некаторых вузлах сувязі асноўны каталог хаваюць, каб не страпалі, а выкладваюць часовыя. Таму смела патрабуйце, бо каталогі разасланы да кожнага вузла сувязі, а калі куды не дайшоў, то гэта клопат павінен быць не ваш, а паштавікоў.

Мы ізноў паднялі цану, але гэтая цана адна з самых нізкіх на Беларусі. Гэтая цана можа быць праз тры месяцы павялічана, таму мэтазгодна падпісвацца на паўгода. Рознічная цана заўсёды будзе роўнай або большай за падпісную. Таму, калі вы хочаце нас чытаць, то выгадней падпісацца. На 2-й старонцы мы друкуем спіс іншых беларускамоўных выданняў, на якія ТБМ рэкамендуе падпісвацца.

# Падпіска 2000

Ф. СП - 1 Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

**Кошт** падпіскі 300000 руб. пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча ініцыялы)




Кастусь Тарасаў

## "Гістарычнае падарожжа для дзяцей"

Шаноўнае спадарства. Калі мы ў апошнім нумары давалі паведамленне пра выхад новай кнігі Кастуся Тарасава, самой кнігі рэдакцыя яшчэ не мела і мусіла скарыстацца інфармацыяй з электроннай пошты, па якой нам чамусьці даслалі выяву 4-й старонкі вокладкі.

Зараз мы маем гэтую кнігу і проста абавязаны падаць выяву 1-й старонкі і ў якасці анатацыі адзначыць, што




кніга Кастуся Тарасава ўсё пра тыя ж 10, нават 11-12 стагоддзяў нашай гісторыі, але яна ні ў якім разе не паўтарае і, нават, не дапаўняе кнігі Арлова. Яна змушае тыя ж гістарычныя падзеі заззяць новымі гранямі, а тых жа гістарычных асобаў павярнуцца іншым бокам. Так, напрыклад, у нас шмат пішуць пра шлюб Ягайлы і Ядвігі, пішуць пра прычыны, што выклікалі гэты шлюб, але чамусьці маўчаць пра адну з іх: пра бясконцыя наезды ліцьвінскіх дружын на польскія землі. Тарасаў паказвае адзін такі наезд, наезд на галоўны рэлігійны асяродак Польшчы Лысагурскі кляштар. Вёў ліцьвінаў Альгерд. У паходзе ўдзельнічалі і Кейстут, і Вітаўт, і Ягайла. Кляштар абадралі, як ліпку, вывезлі, нават, абразы, хоць усе былі паганцамі. І так далей па мностве эпізодаў нашай гісторыі. Так, гісторыя ў нас адна, гістарычныя асобы для ўсіх гісторыкаў адны і тыя ж. Але кожная гэтая асоба пражыла цэлае жыццё. І ўсе гэты жыцці ні ў якую кнігу не ўлажыць. Напісаў Ермаловіч, напісаў Арлоў, напісаў Сагановіч, напісаў Тарасаў, а поле гісторыі яшчэ толькі зачэплена з самага краечку. Яго яшчэ араць і араць многім пакаленням гісторыкаў.

Цудоўна дапаўняюць тэкст шматлікія ілюстрацыі вялікай долі гістарычнай дакладнасці. Яны ствараюць другую паралель кнігі – візуальную і з'яўляюцца каштоўным матэрыялам для настаўнікаў гісторыі, бо дазваляюць уключыць візуальную памяць. Была некалі ў гісторыі савецкага кнігавыдавецтва "Кніга будучых камандзіраў" А.Міцяева (1974 г.) – моцна ілюстраваная вайсковая гісторыя. Гэта быў узор ілюстраванай гісторыі. Магу смела сказаць ілюстраванасць кнігі Тарасава калі не на парадак, то ў некалькі разоў вышэй.

Яшчэ раз паўтару, што кніга выйшла ў Менску ў выдавецтвах "Лекцыя" і "Бацькаўшчына". Наклад усяго 3000 асобнікаў. Спяшайцеся.

*Станіслаў Суднік.*

## Паважаныя сябры і зычліўцы ТБМ!

У Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны пастаянна паступаюць просьбы аб дабрачыннай перадачы беларускіх кніг у біблятэчкі бальніц, турмаў, дзіцячых дамоў. Мы заўсёды адгукаемся на такія просьбы з улікам сваіх магчымасцяў, але нам не хапае Вашага ўдзелу ў гэтай патрэбнай высакароднай справе. Калі ласка, далучайцеся да нас, ахвяруйце беларускія кнігі і часопісы на дабрачынныя мэты, памятайце, што заўсёды ёсць тыя, каму менавіта Вашае ахвяраванне вельмі і вельмі патрэбнае. Чакаем Вас у цэнтральнай сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (Менск, Румянцава, 13 – ісці ад станцыі метро "Плошча Перамогі"; кантактны тэлефон 284-85-11).

# Віленшчына ў змаганні за Беларушчыну

1.18. XI. 99 г. перад будынкам беларускага Консульства ў Вільні пад лозунгам "У абарону "Засьцянковай хаткі", "У абарону правоў і свабодаў чалавека ў Беларусі" адбыўся пікет, які ладзіла ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага Краю.

"Абаронім "Засьцянковую хатку", "Пад суд Гірына, Васюковіча, Кучыца, Аршынаву", "КГБ, вон з Вільні!" – такія лозунгі былі на гэтай акцыі пратэсту. Апроч гэтага на пікеце, які праводзіўся пад бел-чырвона-белым сцягам былі выказаны свае адносіны да Саюза Расеі і Беларусі. Праект Дамовы гэтага Саюза быў публічна спалены пад вокнамі Консула Аляксандрава, -- рэзыдэнта КДБ. Лозунг "Саюз Расеі зь Беларусіяй – гэта галеча, голад, гэта Чачня..." – красамоўна сведчыў аб палітычным кірунку гэтага пікета. Хаця на пікет прыйшло нямнога (усяго 10 чалавек), але праходжыя пешаходы і кліенты Консульства застаноўліваліся і цікавіліся сітуацыяй, якая склалася на Беларусі. Затое нахальна шчыравалі агенты беларускага КДБ на пікеце, якія рабілі аператыўныя відэаздымкі. Падобныя акцыі пратэсту ТБМ будзе праводзіць і надалей, бо над "Засьцянковай хаткай" навісла пагроза спаліць яе, а мясцовыя ўлады Докшыцкага раёна апякуюць бандытаў, бо самі зацікаўлены ў тым, каб знішчыць "Засьцянковую хатку" – гэты моцны асяродак Беларушчыны.

Рукі прэч ад "Засьцянковай хаткі".

*Ю.Гіль*

2. Сіламі ТБМ у засценку Вашунова на Узвіжанне пастаўлены чарговы (ужо трэці) Крыж (жалезны), гэта выклікае незадаволенне мясцовай мафіі, якія пагражаюць знішчыць іх. Ці не таму яны пад час бандыцкага нападу 28.09.1999г. на "Засьцянковаю хатку" сваімі бруднымі нагамі тапталі выявы (абразкі) Маці Божай Фацімскай і Папы Рымскага? Гэта рабілі Гірын (старшыня калгаса "Чырвоны сцяг"), Васюкевіч (гал. аграном) ды і Кучыц (участковы міліцыянер).

Праваахоўныя ворганы Докшыцкага раёна не бачаць у гэтым злачынства, не гледзячы на тое, што гэтыя калгасныя "выкармышы" мацярыліся сочным рускім матам перад Крыжом і пастаўленымі на п'едэстал Фігуркамі Маці Божай і Ісуса Хрыста; стралялі з агнестрэльнай зброі і г.д.

Я вымушаны ўжо падаць скаргу ў абласную пракуратуру і абласны суд з патрабаваннем узбудзіць крымінальную справу ў адносінах да Кучыца, Гірына, Васюковіча і Аршынавай, бо раённыя ўлады прыслалі ліст, дзе паведамляюць, што " в возбуждении уголовного дела отказано за отсутствием состава преступления". Гэты ліст падпісала памочнік пракурора Докшыцкага р-на юрыст 3 кл. Н.В.Кейзік. Зразумела, мафія кантралюе праваое поле ў раёне, таму быў зроблены ўціск на пракуратуру і такі адказ, хаця першапачаткова пракуратура зрабіла аб'ектыўнае расследванне і быў накладзены пратэст на рашэнне суддзі Аршынавай, у выніку чаго справа была перагледзена і я быў выпушчаны на волю, адседзеўшы ўсё ж 3 сутак, замест 7.

Хачу адзначыць, што буду дабівацца суда над вінаватымі па інстанцыі, аж да Міжнароднага. Чакаецца працяглая барацьба з несправядлівасцю, з парушэннямі правоў і свабодаў чалавека на Беларусі.

Аб гэтым буду інфармаваць газету "Наша слова" і др., а таксама звяртаюся па маральную і юрыдычную падтрымку.

3. У Вільні, на Зарэччы, кожную нядзелю а 10.30 гадзіне ў касцёле Святога Барталамэя адбываюцца набажэнствы на роднай мове, якія праводзіць ксёндз а. Ян Шуткевіч. Запрашаем у Вільню. Слухайце Слова Божае на роднай мове!

4. Просьба прыняць удзел беларускіх навукоўцаў у стварэнні беларускай экспазіцыі гіст.-этн. музея ў Няменчыне Віленскага раёна. Калі ласка!

*Юры Гіль Старшыня тБМ Віленскага краю, дэпутат Віленскага раёна.*

# Вейцманаўскія дні ў Рэспубліцы Беларусь



23 лістапада ў рамках Вейцманаўскіх дзён у Рэспубліцы Беларусь у Пінску на будынку былога Пінскага рэальнага вучылішча, дзе вучыўся першы Прэзідэнт Дзяржавы Ізраіль Х. Вейцман, была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У гэты ж дзень Генеральны дырэктар Адміністрацыі Прэзідэнта Дзяржавы Ізраіль Ар'е Шомер пабываў у вёсцы Моталь Іванаўскага раёна Берасцейскай вобласці, дзе нарадзіўся першы Прэзідэнт Дзяржавы Ізраіль Х. Вейцман.

На здымках: мемарыяльная дошка на будынку былога рэальнага вучылішча ў Пінску; Ар'е Шомер і Міхаль Бернер -- пляменніца першага Прэзідэнта Дзяржавы Ізраіль Х. Вейцмана ў музеі ў вёсцы Моталь.

Фота Віктара Талочкі, БелТА.





# ШТО ЧУЕМ, ТОЕ І ПІШАМ?

У артыкуле " І камітэт дзяржкантролю туды" Язэпа Палубяткі ў газеце "Наша слова" № 43 ад 27 кастрычніка 1999 года чытаем: "застаецца толькі здагадвацца, што лягчэйшымі былі беларускія дыктоўкі, бо прынцыпы беларускай мовы, **што чую, тое і пішу"**.

Ужо не першы раз даводзіцца сутыкацца з выказваннем, якое не адпавядае нормам сучаснай беларускай арфаграфіі. Яго звычайна прыводзяць, каб паказаць прастату беларускай мовы, яе лёгкасць у вывучэнні і тым самым прывабіць тых, што вагаюцца, (вучняў, студэнтаў) пісаць па-беларуску. Маўляў, меней будзеце рабіць памылак. Аднак, калі ўсё так проста і можна пісаць, як чуеш, нашто тады столькі часу марнаваць на вывучэнне мовы, нейкіх там скланенняў, разрадаў, ладоў і іншай дробязі. Паспрабуем разабрацца адносна чаго ўзнікла гэтая памылка.

Вядома, што сучасны беларускі правапіс грунтуецца на 2-х прынцыпах – фанетычным і марфалагічным. "Паводле фанетычнага прынцыпу гукі перадаюцца на пісьме адпаведна літаратурнаму вымаўленню: ***савет-савецкі, прыгожы-прыгоства, хораша-хараство***. Паводле фанетычнага прынцыпу дакладна перадаюцца на пісьме арфаэпічныя нормы літаратурнай мовы. Фанетычны прынцып дае магчымасць перадаць на пісьме такія спецыфічныя асаблівасці беларускай мовы, як аканне і яканне, дзеканне і цеканне, цвёрдасць шыпячых і інш". ("Сучасная беларуская літаратурнная мова". Кавалёва М.Ц., Юрэвіч А.К., Янкоўскі Ф.П., Мінск, 1993,ст.185).

Вось адсюль і пачынаецца праблема, бо фанетычны прынцып, які пераважае ў беларускай мове, імкнецца ў працэсе пісьма наогул засланіць сабой марфалагічны, падмяніць яго, як бы гаворачы: пішы, што чуеш, літару ***т*** на канцы слова ***дзед***, ***ш*** усярэдзіне слова ***перапісчык***, ***ц*** замест ***дс*** у слове ***гарадскі***, і ***носьбіт*** без мяккага знака. І не зважай, гаворыць гэты прынцып, ні на напісанне звонкіх зычных на канцы слоў, ні на напісанне свісцячых перад шыпячымі, на спалучэнне ***дс, дч, тч*** і кінь углядацца ў этымалогію слова. Марфалагічны прынцып, заснаваны толькі на перадачы моцных марфем, перастае спрацоўваць.

Тое, што на месцы гукаў ***о, э*** пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных ва ўсіх ненаціскных складах пішацца літара ***а***, а на месцы ***е, ё*** ў першым складзе перад націскам пішацца ***я*** вядома яшчэ са школы. Гэта пачынае выглядаць настолькі натуральным і арганічным, што здаецца, усё маўленне будуецца на гэтых меладычных пералівах: ***сэрца-сардэчны, весела-вясёлы, снег-сняжок.*** Фанетычны прынцып "найбольш паслядоўна вытрымліваецца пры фармулёўцы правіл перадачы на пісьме галосных гукаў, бо аканне і яканне, уласцівыя вуснаму беларускаму маўленню, знайшлі сваё замацаванне на пісьме. Напрыклад, вымаўленне гука, падобнага на ***а*** у першым пераднаціскным складзе на месцы ***о*** вядома ў беларускай і рускай мовах. Па-руску аднак гаворыцца ***барада, малако***, аднак пішацца ***борода, молоко***, а беларускае напісанне адпавядае вымаўленню – ***барада, малако***". (Энцыклапедыя беларускай мовы. Пад рэдакцыяй прафесара Міхневіча А.Я., Мінск, 1994, ст.585). Менавіта таму наша прыгожая, песенная мова валодае ўнікальнай вакальнасцю, утворанай прынцыпамі акання і якання. Ейная цягучасць і пявучасць і стварае эфект, калі і сапраўды хочацца пісаць тое, што чуем, здаецца, гэта проста. Але праблема не ў "прастаце" мовы, а ў тым, што мы, затлумваючы галовы сабе і іншым няснымі, штучна скляпанымі правіламі, спрабуем паказаць перспектыўнасць мовы ў яе лёгксці для вывучэння. Паказваючы універсальнасць (якая нам на самой справе здаецца), ускосна спрашваючы мову, мы нікольні ёй не служым. І няма розніцы, на якой мове лягчэй пісаць дыктоўкі, калі яна твая родная, ты выбраш яе, будзь яна хоць якой па складанасці. А пераносячы якасці некалькіх правіл фанетычнага прынцыпу на ўсю сістэму арфаграфіі мы робім лагічную памылку, калі ўласцівасць відавой часткі распаўсюджваем на рода-вую. Трэба старацца не дапускаць блытаніны марфалагічнага і фанетычнага прынцыпаў і пісаць у залежнасці ад іх: або ***французскі, лётчык, на кладцы*** (марф.), або ***падзяка, калоссе, птаства*** (фанет.).

*Аляксей Чубат,*
*студэнт ІІ-га курса*
*факультэта журналістыкі*
*БДУ.*

# Міжнародныя абаронцы правоў чалавека пра сённяшні стан беларускай мовы і гісторыі на Беларусі

*У ліпені 1999 года ўплывовая міжнародная праваабарончая арганізацыя "Х'юман Райтс Вотч" прэзентавала міжнароднай грамадскасці грунтоўны даклад "Рэспубліка Беларусь. Парушэнні акадэмічнай свабоды". У ім, акрамя іншага, ідзе размова пра сучасны стан беларускай мовы і гістарычнай навукі ў нашай краіне.*

*Прапануем чытачам "Нашага слова" вытрымкі з вышэйзгаданага даклада. (Пераклад І.Марачкінай).*

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

"У постсавецкай Беларусі ўзору 1994 г. гісторыя стала надзвычай палітызаваным прадметам. Прэзідэнт А. Лукашэнка ператварыў уласную трактоўку гісторыі ў краевугольны камень цэнтральнай лініі свайго праўлення – аб'яднання з Расіяй. Пры гэтым ён вылучыў выкладанне беларускай гісторыі ў школах і універсітэтах на першы план усё больш востай барацьбы за прадстаўленне "сапраўднай" гісторыі Беларусі. Паступова абмяжоўваецца дадзеная гісторыкам у перыяд перабудовы і пасля распаду СССР поўная свабода даследванняў і публікацый па забароненых у мінулым пытаннях, такіх, як зверствы сталінізму. Вучоных, якія займаліся даследваннем трагічных старонак беларускай гісторыі перыяду сталінізму, разглядаюць як людзей, што кінулі наўпроставы выклік урадавай палітыцы інтэграцыі, і ў цяперашні час яны сутыкаюцца з абмежаваннямі ў сваёй працы. Гісторыкі і даследчыкі, якія публікуюць працы ці арганізуюць канферэнцыі па такой тэматыцы, становяцца аб'ектам палемічных нападак у дзяржаўных выданнях; пры гэтым іх пазбаўляюць магчымасці адказаць, пазбаўляючы іх доступу да сродкаў інфармацыі. Напісаныя і выдадзеныя ў постсавецкі перыяд падручнікі гісторыі для школ і універсітэтаў паступова прыбралі з аўдыторыяў, замяніўшы іх па загаду ўладаў стандартнымі савецкімі выданнямі. Новае пакаленне незалежных гісторыкаў ставяць сёння на адну дошку з апазіцыйнымі палітыкамі; у адрозненне ад тых вучоных, якія падтрымліваюць лінію прэзідэнта, яны аказваюцца ва ўсё больш небяспечнай сітуацыі".

"Нягледзячы на тое, што беларуская мова мае падабенства з рускай, яна застаецца самастойнай мовай. Канстытуцыя 1994 г. зацвердзіла яе як дзяржаўную мову рэспублікі, што адлюстроўвала яе зноў набытую незалежнасць, пры тым, што лістападаўскі, 1996 г. рэферэндум па папраўках да канстытуцыі фармальна ўстанавіў роўнасць паміж беларускай і рускай мовамі. З часу яго правядзення, аднак, службовыя асобы сталі аддаваць перавагу рускай мове: так, напрыклад, прэзідэнт на публіку рэдка або зусім не гаворыць па-беларуску. Гэтую мову выкарыстоўвае вялікая колькасць незалежных газет і арганізацый, што, акрамя падкрэсленай розніцы паміж дзяржаўнымі і недзяржаўнымі структурамі, прывяло таксама да палітызацыі моўнага пытання.

Характэрнай рысай першых гадоў постсавецкага перыяду было адраджэнне цікавасці да беларускай мовы, гісторыі, культуры і нацыянальнай сімволікі. У 1991 годзе савецкія абмежаванні адышлі ў нябыт, а ў грамадскае жыццё пачалі ўваходзіць забароненыя раней прадметы: у школах і універсітэтах па ўсёй рэспубліцы ўпершыню пачалі выкладаць беларускую мову, а вучоныя апанавалі савецкія архівы і пачалі публікаваць вынікі сваіх пошукаў. Пачалі выходзіць новыя падручнікі на беларускай мове, на ўроках гісторыі ўпершыню пачалі абмяркоўваць такія пытанні, як рух за незалежнасць Беларусі і яго душэнне ў Савецкім Саюзе. Прэзідэнт А.Лукашэнка згарнуў з тае пары практычна ўсе ініцыятывы і сёння руская мова пераважае над беларускай ва ўсіх сферах; у школах і універсітэтах выкладаюць гісторыю ў савецкай трактоўцы; даследванні такіх тэмаў, як сталінскія рэпрэсіі, не ўхваляюцца, не фінансуюцца і не дапускаюцца да публікацыі; на выкладчыкаў і студэнтаў, якія маюць сваю думку робіцца ўціск, іх звальняюць або выключаюць".

# Да 100-годдзя народнага пісьменніка

Дзяржаўным аб'яднанем "Белпошта"30 лістапада 1999 года ўведзена ў абарачэнне мастацкая паштовая картка з арыгінальнай маркай, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова.

На здымку: новая паштовая картка, створаная мастаком А. Федзіным.
Фота Мікалая Пятрова, БелТА.




***Старшыні Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання***
***"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.***

Паважаны Алег Анатольевіч!

Паведамляем, што пытанне аб наданні вуліцам горада Мінска імён выдатных дзеячоў гісторыі і культуры нашай дзяржавы Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францішка Багушэвіча, Адама Міцкевіча, Уладзіміра Пічэты будзе разгледжана на чарговым пасяджэнні камісіі па найменаванню і перайменаванню вуліц і плошчаў г.Мінска.

З павагай, начальнік упраўлення В.І.Кураш.

# УВАГА!!!

У Таварыстве беларускай мовы ідзе праца над праектам укладання і друку невялікай, але вельмі цікавай кнігі пад папярэдняй назвай "Што павінен ведаць кожны сябра ТБМ"

Шаноўны спадар (шаноўная спадарыня), калі Вас зацікавіла гэтая ідэя, Вы можаце прыняць удзел у складанні кнігі. Вашыя ідэі будуць ацэненыя і рэалізаваныя, вашая дапамога ў рэалізацыі будзе шчыра вітацца.

Поспех праекта залежыць толькі ад удзельнікаў – гэта значыць, ад Вас.

Не трэба чакаць, пакуль іншыя ўкладуць свой інтэлект і досвед! Удзельнічайце і запрашайце іншых!

Дапаможнік будзе складацца з простых рэчаў, якія кожны чалавек – прыхільнік беларушчыны – здольны зрабіць для сваёй мовы без вялікіх выдаткаў і намаганняў. Кніга павінна падказаць што можна зрабіць для беларускай мовы (для ТБМ, з дапамогай ТБМ), як гэта зрабіць лягчэй, хутчэй і г.д. Маленькія людзі робяць вялікія справы.

- Кожную трэцюю пятніцу месяца з 17.00 прыкладна да 19.30 можна прыняць асабісты ўдзел у групавым абмеркаванні па гэтай тэматыцы.
- У сядзібе ТБМ (па Румянцава, 13) 7 дзён на тыдзень, 24 гадзіны на суткі вы можаце пакінуць вашыя ідэі, кантактныя звесткі на паперы.
- Па тэлефоне 223-07-43 (штодня з 9.00 да 12.00) выслухаюць усе вашыя прапановы.
- Электронная пошта: menchuk@usa.com

ЗАПРАШАЕМ!!!

# ЗАПАВЕТЫ АНДРЭЯ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ СУАЙЧЫННІКАМ

альбо

# ЦІ ЗМОГУЦЬ СУАЙЧЫННІКІ ДАБІЦЦА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

***"Я, Тадэвуш Касцюшка, перад Богам прысягаю ўсёй Нацыі, што дадзеную мне ўладу не выкарыстаю ні ў чыіх прыватных інтарэсах, але буду карыстацца ёю выключна для забяспячэння непарушнасці мяжы, аднаўлення незалежнасці Нацыі і ўсталявання свабоды. (...)" ( з прысягі Касцюшкі 24 сакавіка 1794г.)***

***Паважаны галоўны рэдактар!***

*Спаўняецца 200 гадоў з дня выхаду у свет, у Парыжы, невялікай кніжкі, якая многа разоў перавыдавалася і была незвычайна папулярнай у нашых і Вашых прапрадзедаў. У гэтай кніжцы выкладзена выпрацаваная А.Т.Касцюшкам праграма барацьбы за незалежнасць і шчаслівую долю сваёй Айчыны. У Беларусі гэтую працу можна адшукаць толькі ў выданнях АН СССР: "Избранные произведения польских мыслителей. Т.1. –М.:АН СССР.-1956.с.539-584".*

*Дасылаем Вам вытрымкі з упершыню выкананага перакладу на беларукую мову гэтай касцюшкаўскай праграмы і выказваем упэўненасць, што думкі А.Т.Касцюшкі будуць цікавымі не толькі Вам, чытачам Вашай газеты, але і розным дзяржаўным і палітычным дзеячам Беларусі.*

*Просім Вас надрукаваць прыкладзеныя на трох лістах "Запаветы Андрэя Тадэвуша Касцюшкі суайчыннікам..." у Вашай газеце, а магчымы ганарар накіраваць у адну з установ (па Вашаму выбару), дзе ад наступстваў чарнобыльскай бяды лечацца беларускія дзеці.*

*З пажаданнем усяго найлепшага.*

*22.11.1999г. А.В.Сурвіла.*

Айчына цяпер выкраслена з ліку еўрапейскіх дзяржаў.

Ці з'яўляецца гэты жудасны ўдзел вечным прысудам, ці гэта ўсяго часовае становішча„падобнае на незвычайныя паводкі, якія ўсё знішчаюць, але не паглынаюць: пасля іх, калі сціхне шаленства стыхіі, застанецца зямля, абцяжараная вялікімі стратамі. Што ўяўляе сабой гэтая праблема, якая патрабуе поўнага вырашэння? Суайчыннікі вельмі хацелі б выразна ўявіць сабе сваю будучыню. Калі б прысуд краінам выносіла правасуддзе, дык можна было б апеляваць да яго, таму што нацыя, якая не імкнулася да захвату чужых зямель, а толькі да самазахавання, якая не выкарыстоўвала інтрыгі, каб ашукаць іншых, а імкнулася толькі палепшыць становішча сваіх суайчыннікаў, нацыя, пры справядлівай абароне якой многіх яе сыноў напаткала няшчасце і смерць, а ў апошняй вайне за яе праліў сваю кроў на полі бітвы першы чалавек у Еўропе па сваёй грамадзянскай дабрадзейнасці , такая нацыя не толькі павінна захаваць сваё існаванне і месца сярод вялікіх дзяржаў, але і заслугоўвае вялікай павагі. Але на жаль правасуддзе ў адносінах паміж народамі – гэта толькі мара! Знішчальнае жалеза з бязлітасным шаленствам дыктуе свае законы, хапае, рабуе, прызначае ўладу, і мільёны непавінных людзей ідуць пад ярмо разбэшчаных нягоднікаў. Суайчыннік! Ты бачыш, што твае скаргі ў Еўропе на крыўды, прычыненыя табе, марныя; калі хочаш шчасця, гонару і славы, як для сябе, так і для сваіх нашчадкаў, упэўніся ў тым, што табе неабходна карыстацца сродкамі і сіламі, што прырода дала чалавеку, які жадае аднавіць справядлівасць. Я лічу, што прынясу годны дар на алтар Айчыны, калі выкажу свае думкі адносна таго, як патрэбна дамагчыся яе незалежнасці: я пакажу сваім суайчыннікам тыя з іх заган, якія замінаюць ім падняцца да таго, каб абудзіць у чужынцаў павагу да сябе і ўсталяваць у краіне шчасце; разам з тым я ўзнясу тую іх годнасць, якая можа прывясці іх да магутнасці.

Дык будзем чытаць і вучыцца: пажадаем толькі – і мы станем свабоднымі, бо (...) народ не можа быць народжаны для рабства.

### ЗАГАНЫ СУАЙЧЫННІКАЎ, ЯКІЯ ПЕРАШКАДЖАЮЦЬ ІМ ДАСЯГНУЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Нацыя, якая імкнецца да незалежнасці, павінна быць упэўнена ў сваіх сілах. Калі яна не мае гэтага адчування, калі яна не прыкладвае ўласных намаганняў для захавання свайго існавання, а спадзяецца на падтрымку ці літасць чужаземцаў, то можна смела казаць, што яна не даб'ецца ні шчасця, ні гонару, ні славы. Хіба ж мы не знойдзем прыклады ў гісторыі, калі б якая-небудзь краіна, якая прызнаецца нашай памяццю, дасягнула высокай ступені славы пад чужой апекай? Не, ад гэтага можна чакаць толькі журботных наступстваў. Напомнім толькі, як рымляне паважалі грэкаў, ад якіх навучыліся мудрым законам; але як толькі яны пачалі ўмешвацца ў справы грэкаў, то закончылі тым, што навязалі ім сваё ярмо. Пакуль на Бацькаўшчыне былі ўпэўнены ў сваіх сілах, іх зброя атрымлівала перамогі на прасторах ад Вены да самай Масквы. Калі ж яны згубілі ўпэўненасць у сябе і пачалі безупынна прпасіць ратунку ў чужаземцаў, дык ператварыліся у нікчэмнасць і падпалі пад чужаземнае ярмо. Абыякавасць у адносінах да сябе распаўсюдзілася ў нас з таго часу, калі айчынны дробнапамесны гаспадар пачаў імкнуцца не да дабрабыту Бацькаўшчыны, а да задавальнення пыжлівасці магнацкіх фамілій. У часы бескаралеўства кожная партыя, якая імкнулася навязаць суайчыннікам свайго стаўленіка, звярталася да чужаземных двароў па дапамогу зброяй, грашыма, за якія яна магла б павялічыць колькасць сваіх прыхільнікаў. Чым больш прыхільнікаў мела тая ці іншая фамілія, тым больш упэўнена выйгравала справы ў трыбуналах, праводзіла выгадныя для сябе пастановы на соймах, атрымлівала агромністыя маёмасці, якімі не валодаў аніводны вяльможа Еўропы. Больш слабыя павінны былі шукаць заступніцтва магнатаў для таго, каб суды не пазбаўлялі іх маёмасці. Правіцелі суседніх краін, што сеялі інтрыгі ў Айчыне, падтрымвалі адносіны з магнатамі і давалі ім грошы; магнаты ў сваю чаргу раздавалі дробныя сумы сваім подлым кліентам для абуджэння хваляванняў выгадных таму правіцелю, які ім заплаціў.

Вось чаму айчынны дробнамаёмасны гаспадар і, асабліва, магнат не прывык ахвяраваць чымсьці, калі справа заходзіла аб Бацькаўшчыне, а, наадварот, імкнуўся атрымаць больш багацця, выкарыстоўваючы для гэтага безуладдзе. Магнаты былі зацікаўлены ў тым каб пераканаць нацыю у яе нікчэмнасці і слабасці, запэўніць яе ў тым, што яна нічога не можа дасягнуць сваімі ўласнымі сіламі, без дапамогі суседняй дзяржавы, таму што яны атрымвалі багацці, гандлюючы крывёй нацыі ля падножжа тронаў. Магнаты былі зацікаўлены ў аслабленні духу сваіх суайчыннікаў, у знявазе іх годнасці для таго, каб яны не ведалі сваёй сілы і не маглі скінуць з сябе ганебнай апекі, у іншым выпадку магнаты згубілі б свой уплыў. Нацыя, якая самастойна вырашае свае праблемы, не баіцца нікога, не шукае аніякай прпыхільнасці, імкнецца пры дапамозе мудрых законаў натхніць сваіх суграмадзян на дабрадзейнасць і накіраваць іх шчасце на тое, каб агульная моц стала яшчэ больш трывалай; закон там аднолькава ўтаймоўвае запал усіх, так што магнат не можа стаць гвалтоўнікам ці вымагальнікам. Успомнім, наколькі распаўсюджаны быў сярод суайчыннікаў погляд, быццам яны няздольны да прамысловасці, рамёстваў, навук – горш таго, не здольны самі абараніць сябе: гэты погляд, які захаваўся да гэтага часу, з'яўляецца прычынай нашых бед. Хіба ж (...) нацыя, якая раней квітнела, не ўступала нікому ў Еўропе энергіей і мужнасцю, якая валодае (...) урадлівай (...) зямлёй, не магла б вызваліцца, калі б толькі гэтага захацела? Швейцарцы і галандцы, якія жывуць сярод скал і балот, маюць у дзесяць разоў меншае насельніцтва, абаранілі сваю незалежнасць у барацьбе з больш магутным супраціўнікам, хіба ж мы, маючы больш шчодрыя прыродныя рэсурсы, скарбы, павінны быць асуджаны на ганебную няволю? Забабоны і злачынства прыносяць значна больш шкоды, чым ваенныя паразы. Яны прывялі да таго, што ў нас, дзе зямля (...) урадлівая, сяляне амаль паміраюць з голаду; (...).

Усюды злачынства: неабмежаванае ўладарства толькі мучыць сялян; не толькі сэрца сціскаецца пры ўспаміне аб жорсткасцях уладароў, але і само ўяўленне скаланаецца. Суайчыннікі, вы ўжо зразумелі мноства нашых памылак і змаглі іх выправіць, адчуйце і тую ж ісціну, што вы не зможаце быць сапраўды свабоднымі, пакуль СВАІМІ УЛАСНЫМІ НАМАГАННЯМІ НЕ ДАМОЖАЦЕСЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ. Характар нацыі, якая нікому нічым не павінна, акрамя сяброўства, якое прапануецца найбольш годнаму, якая заключае толькі карысныя для свайго шчасця саюзы, воля якой нічым не звязана, якая у сваіх рашэннях кіруецца толькі здаровым розумам, не аглядваецца на магутнасць суседзяў, - характар такой нацыі складваецца з усяго, што ёсць вялікадушнага і высакароднага, што абуджае адвагу і падтрымвае мужнасць. З такой годнасцю яна дасягне багацця, гонару і вялікай славы. І наадварот, калі яна нічога не зможа зрабіць без чужога дазволу, калі кожнае сваё рашэнне яна павінна прыстасаваць да жаданняў і інтарэсаў тых, ад каго залежыць яе існаванне, у такім выпадку душа яе застанецца рабалепнай, а яе ідэі будуць пазбаўлены натхнення, якое заахвочвае на вялікія справы і стварэнні; такая нацыя назаўсёды застанецца подлай, вартай жалю і рабскай. **Я хацеў бы, каб у Айчыне існаваў закон, які б прысудзіў да выгнання ці да смерці таго, хто звярнуўся б па дапамогу, нават, да самай брацкай дзяржавы ці папрасіў бы яе ўмяшацца ў справы Айчыны. (...).**

Неабходна прызнаць, што суайчыннікі не церпяць ярма, выяўляюць энтузіязм у барацьбе за свабоду і годнасць; але недахопам іх з'яўляецца тое, што ім не хапае настойлівасці ў здзяйсненні іх смелай справы, якую яны энергічна пачалі, іх збянтэжваюць перашкоды. Мала выявіць імкненне да парадку і справядлівасці, патрэбна яшчэ валодаць мужнасцю, каб абараніць іх. Але ж я бачу, што суайчыннікам не хапае настойлівасці для пераадольвання перашкод, таму што яны мала разважалі, мала задумваліся над лёсамі і дзеяннямі чалавецтва. (...). Калі узнікае новае імкненне, яно на першых парах не мае такой сілы, якую набывае з часам. Пакінем збоку рэлігію і яе месца ў гісторыі, возьмем самы новы прыклад (...). Ніхто не будзе адмаўляцца ад той відавочнай ісціны, што калі б паўстала Украіна падобна Вялікай Польшчы, то царскія войскі павінны былі б адступіць ці раздзяліцца на часткі. Гэта аслабіла б іх і нам было б лягчэй вызваліцца. (...).

Суайчыннікам уласціва таксама заганнае сляпое перайманне; яна з'яўляецца вынікам таго, што яны мала задумваліся над сваім становішчам. Маючы агульную справу з французамі, мы хочам абавязкова валодаць такімі ж, як яны сродкамі, мець такое ж войска, такія ж імкненні; нам здаецца, што без гэтага мы не дасягнем сваіх мэтаў. Але нам трэба зразумець, што наша краіна зусім іншая: у яе іншае становішча, другая ўрадлівасць зямлі, другі нацыянальны характар, таму ёй патрэбен іншы спосаб абароны (...). Будзем шукаць свае ўласныя сродкі, умела выкарыстаемся імі, не будзем слепа пераймаць іх у іншых, і тады мы пэўна дасягнем жаданага поспеху.

---

**Язэп Палубятка** *Забытыя постаці зямлі Беларускай*

# Да 130-годдзя з дня нараджэння Казіміра Стаброўскага

Хто сцвярджае, што на зямлі беларускай не было талентаў – папросту ўводзіць у зман, як сябе, так і сваіх суайчыннікаў; не хоча заглянуць у лёхі нашае гісторыі ды пад наслаенні ілжы, забыцця ды бяспамяцтва, чым ашчаслівілі нас чужынцы, якія імкнуліся ды імкнуцца зараз панаваць у нашым доме. Сведчанне гэтаму імя Казіміра Стаброўскага, мастака, артыста, прафесара ды педагога. Звесткі пра яго можна знайсці ў польскім ды расійскім друку, але толькі не ў беларускім.

Нарадзіўся Казімір Стаброўскі ў лістападзе 1869 года. Дзяцінства будучага мастака прайшло ў маляўнічых мясцінах Слонімшчыны ды Наваградчыны. Тут ён атрымлівае першапачатковую адукацыю. У 1887 годзе юнак едзе ў Пецярбург і паступае ў імператарскую Акадэмію Мастацтваў. У той час тут выкладалі такія знакамітыя майстры сваёй справы як Рэпін, Куінджы ды інш. Тут Стаброўскі набывае бліскучую мастацкую адукацыю. Ужо пад час вучобы ён пачынае працаваць над серыяй з адзінаццаці карцінаў. Над гэтым цыклам мастак працаваў шмат гадоў. Кожная карціна ўяўляе сабою нейкую самастойную "сімфонію ў фарбах". Усяму цыклу "Шэсце навальніцы" уласцівы змрочныя,цёмныя, начныя ды сумныя адценні за выключэннем хіба што апошніх карцін. Большасць з іх прысвечана першай сусветнай вайне. На іх выразна бачны бяда, страх, адчуваецца сумны настрой. Гэта можна меркаваць па карцінах "Над сумнай краінай", "Цень крыжа", "Пажар". Па заканчэнні імператарскай Акадэміі Мастацтваў мастак едзе ў Парыж і працягвае навучанне ў Акадэміі Жуліяна.

У 1894 годзе Казімір Стаброўскі вяртаецца ў родны край, на Слонімшчыну. На працягу дзесяці гадоў жыве тут і працуе. Ён ужо дасведчаны мастак, набывае вядомасць ды прымае ўдзел у шэрагу мастацкіх выстаў у Пецярбургу, Парыжы, Мюнхене, Венецыі.

У 1900 годзе ў Парыжы на міжнароднай выставе атрымаў срэбны медаль за карціну "Цішыня вёскі". Яго карціны карыстаюцца попытам: карціна "Ля раз'езду" набыта для музея ў Мюнхене, а карціна "Лазенкаўскі парк у Варшаве" – для музея ў Венецыі. Творчасці мастака ўласціва прыгожая ды змястоўная сімволіка. Яна надае карцінам непаўторны характар паэтычных твораў. У іх змест пераважае над формаю.

У 1904 годзе Казімір Стаброўскі засноўвае ў Варшаве Школу прыгожага мастацтва. На працягу наступны шасці гадоў ён з'яўляецца яе дырэктарам і выкладчыкам.

Мастака вабяць новыя незнаёмыя краіны. Ён шмат падарожнічае. Акрамя Францыі пабываў у Тунісе, Грэцыі, Егіпце ды іншых краінах. З падарожжаў прывозіў новыя карціны. Яны, як і ўся яго творчасць, прасякнута лірычнасцю вобразаў і пяшчотным каларытам.

Гэта быў чалавек вялікага ды разнастайнага таленту. Стаброўскі меў ступень артыста першай катэгорыі, выступаў на сцэнах многіх тэатраў.

Памёр Казімір Стаброўскі ў 1929 годзе ад інфаркта. 10 чэрвеня 1929 года газета "Кур'ер Варшаўскі" напісала аб ім наступнае: "Памёр вядомы чалавек, знакаміты артыст, энтузіяст усяго прыгожага, слынны арганізатар і філосаф Казімір Стаброўскі... Гэта быў чалавек вялікай працы".

А колькі іх "чалавекаў вялікай працы" застаецца невядомымі.

*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

## Рэч Паспалітая

У той час, калі жыў Леў Сапега, наша Бацькаўшчына – Вялікае княства Літоўскае – аб'ядналася з Польскім каралеўствам. Гэта здарылася ў 1569 годзе. Тады якраз ішла вайна з Масковіяй, і Княству патрэбна была дапамога.

Саюз дзвюх дзяржаваў называўся Рэч Паспалітая.

Палякі хацелі стаць гаспадарамі не толькі ў сябе дома, але і на нашых землях. Нашы продкі на чале з Сапегам былі супраць гэтага. Статут Вялікага княства не дазволіў чужаземцам захапіць уладу. Наша дзяржава мела свае суды і законы, свае войскі і свае грошы. Палякам забаранялася тут займаць дзяржаўныя пасады. Дзяржаўных моваў было дзве: у Польшчы – лацінская, у нас, як вы ўжо ведаеце, - беларуская. Але вялікі князь літоўскі адначасова быў і польскім каралём.

У Рэчы Паспалітай нашы продкі жылі болей за два стагоддзі.



**Старажытная Вільня.** *Паводле тагачасных гравюр.*

## Унія

Большасць жыхароў Вялікага княства Літоўскага трымалася праваслаўнай веры. Праваслаўныя маскоўскія цары, якія марылі захапіць беларускую зямлю, хлусліва абвяшчалі, што яны хочуць абараніць адзінаверцаў. З польскага боку таксама прагна пагдядалі на Беларусь. У Польшчы вера была каталіцкая. Польскія ўлады хацелі ўсіх беларусаў зрабіць каталікамі, каб лягчэй запанаваць над Вялікім княствам Літоўскім.

Леў Сапега і ўсе, хто адстойваў незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, лічылі, што самастойнасць дзяржавы можа ўмацаваць агульная вера. Вярхоўныя праваслаўныя святары сабраліся ў Берасці на з'езд. Яны абвясцілі, што захоўваюць у сваіх храмах усе ранейшыя звычаі і абрады, але прызнаюць уладу галоўнага каталіцкага святара – папы рымскага.

Адбылося як бы аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай царкваў. Новую веру назвалі уніяцкай, таму што слова "унія" ў лацінскай мове і азначае – аб'яднанне, саюз. Вернікаў, якія прызналі гэты саюз, пачалі называць уніятамі. Галоўным уніяцкім саборам стаў старажытны полацкі храм святой Сафіі.

Ва уніяцкіх храмах, у адрозненне ад праваслаўных і каталіцкіх, гучала беларуская мова. Святары тлумачылі на ёй Слова Божае. Вернікі спявалі па-беларуску царкоўныя песні. Уніяты друкавалі на роднай мове кнігі і вучылі на ёй дзяцей у царкоўных і манастырскіх школах.

Паступова новая вера заваёўвала ўсё больш і больш прыхільнікаў. У канцы XVIII стагоддзя уніятамі ўжо была большасць беларусаў. Тры з кожных чатырох жыхароў нашай зямлі маліліся Богу ва уніяцкіх храмах. Таму некаторыя гісторыкі называюць уніяцтва народнай рэлігіяй беларусаў.

Канцлер Леў Сапега спрыяў узмацненню уніі. Аднак ён строга папярэджваў тых святараў, што хацелі загнаць людзей у сваю веру сілай.

## На схіле дзён

Льву Сапегу ішоў ужо сямідзесяты год, калі яму ўручылі булаву вялікага гетмана. Гэта значыла, што ён зрабіўся галоўным ваяводам беларуска-жамойцкага войска.

Час для нашай Бацькаўшчыны быў цяжкі. Шведскі кароль пераправіў на 75 караблях свае палкі праз Балтыйскае мора і рушыў на Вільню і Полацк. Каб выставіць супраць ворага моцнае войска, Леў Сапега аддаў дзяржаве ўсе свае грошы і маёмасць. Яго сын Ян таксама ўзброіў за свой кошт полк жаўнераў, які адважна біўся з захопнікамі. Планы шведскага караля далучыць Вялікае княства да сваіх уладанняў не спраўдзілася.

Леў Сапега вызначыўся і ў іншых справах. Добрым словам успаміналі яго мастакі, пісьменнікі, друкары. За падтрымку і абарону таленавітых людзей паэты прысвячалі яму вершы. Багата грошай ён аддаваў на пабудову храмаў.

Заслуга Сапегі і ў тым, што ён сабраў надзвычай багатую бібліятэку. Ён клапаціўся пра тое, каб для нашчадкаў былі перапісаныя ўсе галоўныя дакументы Вялікага княства.

**Пытанні і заданні:**

1. Раскажы, дзе і як вучыўся Леў Сапега.
2. Як ён трапіў на дзяржаўную службу да караля і вялікага князя?
3. Чым скончылася паездка Сапегі да маскоўскага цара?
4. Раскажы пра законы нашай дзяржавы, сабраныя ў Статуце Вялікага княства.
5. На якой мове быў напісаны і выдадзены Статут?
6. Чаму Вялікае княства Літоўскае аб'ядналася з Польшчай? Як называлася аб'яднаная дзяржава?
7. Што такое унія? Чаму уніяцтва называлі народнай рэлігіяй?
8. Як Леў Сапега дапамог радзіме перамагчы шведскіх захопнікаў?
9. Якія яшчэ заслугі належаць Сапегу?

## Крывавае стагоддзе

## Барацьба за Смаленск

Расейскія валадары не пакідалі мары захапіць Беларусь. Самым блізкім да Масковіі быў старажытны беларускі горад Смаленск. На яго нераз нападалі царскія ваяводы.

У 1632 годзе цар паслаў у наступ на Смаленск саракатысячнае войска свайго баярына Шэйна. Ворагі ўзялі горад у аблогу і пайшлі далей. Яны захапілі Полацк, Друю, Асвею і іншыя беларускія гарады. Але жыхары Смаленска мужна абараняліся і не збіраліся здавацца. На дапамогу смаленцам кароль і вялікі князь Уладзіслаў выслаў моцнае 25-тысячнае войска. Яно абкружыла маскоўскія палкі і прымусіла іх здацца. Пераможцы адпусцілі палонных дадому, пакінуўшы сабе толькі гарматы.

Цар быў такі ўгневаны, што загадаў адсекчы баярыну Шэйну галаву.



**Аблога Смаленска 1610 г.** *З гравюры Г. Келера.*

## Новая вайна

Праз дваццаць гадоў цар Аляксей Міхайлавіч зноў адправіў свае войскі на Беларусь. Ён абяцаў беларусам вызваліць іх ад польскага ўціску, а ў сапраўднасці хацеў зусім іншага. Нашы продкі вельмі хутка зразумелі цану царскіх абяцанак.

Расейскія стральцы спалілі Бабруйск, Глуск, Чавусы, Копысь... Разам з вялікакняжымі жаўнерамі геараічна баранілі свой горад жыхары Мсціслава. За гэта царскі ваявода Трубяцкі аддаў сваім стральцам загад перабіць усіх мсціслаўцаў – ад старых да дзяцей, якія яшчэ не ўмелі хадзіць. У горадзе засталіся толькі адзічалыя сабакі.

Калі маскоўскае войска наблізілася да Полацка, большасць яго насельніцтва на чаўнах і наўплыў пераправілася праз Дзвіну і ратавалася хто як мог. Манахі везлі з сабою абразы і дамавіны з мошчамі святых, бо захопнікі не шкадавалі ні храмаў, ні магілаў.

Адпраўляючы на нашу зямлю ўсё новыя і новыя войскі, цар наказваў ваяводам на сваім шляху ўсё паліць і разбураць, а каб болей паншчыць, назад ісці іншымі мясцінамі. Захаваліся пісаныя ў Маскву граматы ваяводы Трубяцкога, дзе ён павядамляў: "Вокруг Слуцка велели мы все выжечь, а идучи дорогою до Слонима, села, и деревни, и хлеб, и сено по обе стороны жгли и людей побивали, и разоряли совсем без остатку, а в Клецке в городе людей побили всех". Сваімі рабункамі ворагі давялі народ да страшнага голаду.

На захопленай зямлі беларусы ўсё часцей браліся за зброю.

## Магілёўскае паўстанне

Калі царскае войска падышло да Магілёва, яго жыхары вырашылі ўратаваць свой горад ад разбурэння і добраахвотна адчынілі перад маскавітамі браму. Гараджане спадзяваліся, што стральцы, якія былі адной з імі веры, не будуць чыніць ім ніякай крыўды.

Але магілёўцы памыліліся. Чужынцы абыходзіліся з імі, як з палоннымі. Яны адбіралі ў гараджанаў грошы і зброю, коней і хлеб, забіралі нават кухонны посуд. У Магілёве жыло шмат габрэяў. Захопнікі абвясцілі, што вырашылі адправіць іх усіх у Польшчу. Дзеля гэтага ім загадалі ўзяць самыя каштоўныя рэчы і выйсці з горада. У полі габрэяў абрабавалі і амаль усіх пеарэзалі.

Магілёўцы рыхтаваліся адпомсціць крывадушным ворагам. Аднойчы царскія стральцы абрабавалі на рынку жанчын, што прадавалі хлеб. Пасля гэтага цярпенне ў жыхароў канчаткова скончылася. Загадам гарадскіх уладаў магілёўцы, у чыіх дамах жылі заваёўнікі, выкруцілі з іхніх стрэльбаў крэмні. Такія стрэльбы былі ўжо нікуды не вартыя.

Мужчыны даставалі са схованў падрыхтаваную загадзя зброю. У шматтысячным горадзе не знайшлося ніводнага здрадніка, і ворагі да апошняй хвіліны нічога не ведалі.

1 лютага 1661 года магілёўскі жыхар Левановіч, які кіраваў падрыхтоўкай паўстання, з крыкам "Пара!" выхапіў шаблю і кінуўся на стральцоў. Над вуліцамі паплыў набатны звон. Паўстанцам дапамагалі вызваленыя з палону воіны Вялікага княства Літоўскага. За некалькі гадзін ад шабляў і куль палегла некалькі тысяч захопнікаў. Паданне кажа, быццам жывы застаўся толькі адзін-адзюткі стралец, які схаваўся на печы. Яго адпусцілі дадому, наказаўшы перадаць цару і ягоным ваяводам, што беларусы не даруюць падману і здрады і ўмеюць бараніць свой гонар.

*(Працяг у наступным нумары).*

# Давайце спяваць па-беларуску

У нашай рубрыцы "спяваем па беларуску" мы прадстаўляем вашай увазе легенду беларускага року гурт "ULIS" у гутарцы з яго вакалістам Славай Коранем.

***-- Слава, чаму ў вашага гурта такі назоў "ULIS", і што гэта азначае?***

-- "ULIS" гэта прозвішча Адысея з гамераўскай "Іліяды", таксама гэты назоў можна азначыць як вандроўнік.

Для мяне асабіста гэта вобраз мыслення, пастаянны рух, самаўдасканаленне, вандроўка ў сябе.

***-- Скажыце колькі слоў пра гісторыю вашага гурта.***

У 1988 годзе з першага беларускага рок-гурта Бонда сышлі Сяржук Краўчанка, Валеры Ціцкі і я. Разам з Феліксам Аксёнавым, Кірылам Шэвандо і Андрэем Пятрэем мы стварылі новы рок-гурт пад назовам ULIS...

З тых часоў прайшло больш за дзесяць гадоў. За гэты час гурт неаднаразова мяняў свой склад і музычную стылістыку. Як і мітычны Уліс, губляў старых сяброў і вандраваў па свеце. Але ж ідэалогія гурта, як музычная, гэтак і сацыяльная, заставалася нязменнай. Сёння, як і ўчора, гэта пошук новых шляхоў, заснаваны на старых беларускіх музычных традыцыях, пачынаючы з паганства, і павага да свайго Краю, Мовы і Народа.

***-- Які сённяшні склад вашага гурта?***

-- Зараз наш гурт складаецца з трох чалавек. Гэта Віктар Самарукаў – бас-гітара, Аляксандр Быкаў – бубны, а таксама я – Слава Корань – гітара і вакал.

***-- Якую спадчыну пакінуў гурт "Уліс" пасля дзесяці гадоў свайго існавання?***

-- Наш першы альбом "Чужаніца" быў створаны ў 1989 годзе. Пасля ў 1990 г. – "Краіна...", у 1993 г. – "Танцы на даху", 1996 г. – "Life 96" і "Блуканне", 1997 г. – "Ратуйце вашы душы", 1999 г. – "Падарожжа".

***-- Слава, як вы лічыце, у якім стане знаходзіцца сёння беларуская рок-культура?***

-- У 80-х адбываўся ўздым беларускай рок-культуры, у прыватнасці, мы гралі на роўных з такімі выканаўцамі як "ДДТ", "Чайф", "Агата Крысці", "Грамадзянская абарона", Грабеншчыкоў, гурт Гарыка Сукачова і іншымі. Напрыклад у адным з конкурсаў па выніках мы апярэдзілі "Агату Крысці". Калісьці мы выступалі ў Лондане на адной сцэне з такімі гуртамі як GETRO TILL, THE STRENGLERS, NITZER EBB, HOLY GOY, MARILLION, ECHO AND THE BINNYMEN і іншымі.

Зараз ў пераходах вісяць афішы ўсіх вышэйзгаданых рускамоўных гуртоў, а нас як бы не існуе. Для нас зачыненыя радыё і тэлебачанне. Нам забараняюць выступаць на сцэнах ДК і канцэртных залаў на тых жа падставах, на якіх рускамоўным гуртам – зялёнае святло. У Беларусі мы знаходзімся ва ўмовах інфармацыйнай ізаляцыі. Апошнім часам у Менску ўлады зачынілі тры рок-клубы, у якіх рэальна фармавалася беларускамоўная маладзёвая музычная культура.

Ва ўсім гэтым мы бачым цынічную, мэтанакіраваную палітыку ўладаў па знішчэнні беларускай мовы.

***-- Але ў такіх умовах, як атрымоўваецца рэалізоўваць свой творчы патэнцыял?***

-- Даволі часта мы выступаем у Польшчы, на Украіне, дзе, у адрозненні ад Беларусі, маладзёвая музычная культура вельмі развітая. За мяжой нас прымаюць на ўзроўні сваіх зорак і ведаюць, напэўна, лепш, чым на радзіме.

А ў Расеі выступаць мы не хочам і самі. Па-першае, рускія, у адрозненні ад іншых славянскіх краін, пераважна, варожа ставяцца да беларускай мовы, па-другое, іх шоў-бізнес грунтуецца на фармаванні попкультуры, яны ўсё робяць толькі з-за грошай.

Нашыя хіты можна пачуць па радыёхвалях у Германіі, Англіі, Чэхіі, Аўстрыі, Францыі, нават у Аўстраліі. А на Беларусі, дзякуючы чыноўнікам па фільтрацыі беларускамоўнай культуры, нас больш-менш ведаюць у Менску, а на перыферыі многія проста не здагадваюцца, ці існуем мы дагэтуль.

***-- І якое вы бачыце выйсце з гэтага становішча?***

-- Калі ўлічыць, што, па-першае, каб арганізаваць канцэрт, беларускім камандам патрэбныя грошы, якіх яны не маюць, па-другое, цяперашнімі ўладамі ствараецца блакада беларускай моладзёвай культуры, то застаецца, на маю думку, не гледзячы на ўсё гэта, кожнаму рабіць сваю справу. Беларуская маладзёвая культура павінна быць нават у падполлі. Дзеля гэтага мы ездзім выступаць у Польшчу і на Украіну.

***-- Што б вы пажадалі беларусам?***

-- Калі мы былі ў Англіі, то бачылі, як англічане патрыятычна ставяцца да сваіх гуртоў, спартоўцаў, увогуле да свайго. Калі б і беларусы да свайго так адносіліся, дык і ў нас была б іншае становішча.

Увогуле хацелася б, каб беларусам нарэшце стала "за сваю дзяржаву крыўдна".

*Гутарыў Алесь Гурыновіч.*

## Чужаніца

*С.Корань –Ф.Аксёнцаў*

```
Dm            G A7
Чужаніца жыве побач,
Dm         G A
Уключае U2,
Dm         G A7
BBC па начох ловіць,
Dm                  G A
Аж чуваць за вярсту.

Чужаніца PALL MALL паліць,
Глядзіць HARD DAY'S NIGHT,
Ён чытае стары TIME,
Там агляд пра наш край.

G      A       D
Я адчуваю нэрвовы сум,
G   A7    D
Я палю шмат,
G        A        D
Я шпацырую заўжды адзін,
G A7      D
Сам сабе брат.

Чужаніца жыве побач,
У люстэрку гляджу,
Там замест майго твару
Толькі кроплі дажджу.

Я адчуваю нэрвовы сум,
Я палю шмат,
Я шпацырую заўжды адзін,
Сам сабе брат.
```

## Гэстапа

**С.Корань – Ф.Аксёнцаў**

```
Am           Am7        Am
Сьціскае мне далонь гэстапавец,
G         D          Am
Як дохтар мой, як мой сваяк,
Am               Am7        Am
Лагодны, як сьлімак, сівая скронь,
G          D          Am
Ласкавых слоў шчыры мастак.

D                       D7       Am
Сачы за мной, сачы за сабой, як сьлед,
D                       D7       E7
Гэстапа зноў кантралюе ўвесь сусьвет.
Am7 Am C G Am7 Am C G
Хто ты?      Хто я?

Хто здольны бачыць сны пад коўдраю,
Ты будзеш спаць побач са мной,
Няма тваёй віны, што прыйдзеш ты
Дасьледаваць мой настрой.

Сачы за мной сачы, за сабой як сьлед...
```

## Іржавыя дні

*С.Корань – Ф.Аксёнцаў*

```
Em         C  Em       C
На небе йржа, калі я гляджу на неба,
Em          C Am7          B
Шукаю цябе на дзявочых вачох іржа,
Em          C  Em        C
На сонцы йржа, калі я гляджу на сонца,
Em          C  Am7          B
Шукаю цябе, ды й на тварах кабет іржа.

Em            Am
Гаспадары краіны,
   Em           Am
Навошта вы мне, навошта я вам?
Em    Am           Em Am
Сум свой адчуваю я сам, толькі я сам.

На сэрцы йржа, калі я цябе кахаю,
На зорах іржа, я падобны на колер зор,
Шукаю цябе, дый вецер іржавы над намі,
Кахаю цябе, дый пахне йржой чабор!

Гаспадары краіны,
Навошта вы мне, навошта я вам?
Сум свой адчуваю я сам, толькі сам!

Іржавыя дні ды ночы, нібы з жалеза,
Іржавыя дні, ў паветры сталёвы пах,
Іржавыя дні, крыві чалавечай колер,
Іржавыя дні ды здаровы металу смак!

Гаспадары краіны,
Навошта вы мне, навошта я вам?
Сум свой адчуваю я сам, толькі я сам!
```

## Краіна ў кратах

*С.Краўчанка, К.Шэвандо – Ф.Аксёнцаў*

```
  Am7
Рака, што цячэ ля карчмы,
Ды каля моста мур,
Трынаццаць літар на ім
У літарах смур.

   D7
Маёр, што той надпіс чытаў,
Адышоў ні з чым,
    Am7
Можа меўся на ўвазе Нью-Ёрк
Або старажытны Рым

E7        D7     Am7
Краіна ў кратах!
E7        D7    Am7E7
Краіна ў кратах!

Штодня фарбавалі мур,
Каб той лёзунг зьнік,
Бо ён быў патрэбны ўсім,
Як у боце цьвік.

Штодня працаваў маляр,
Працаваў дарма,
Надпіс бачны тут, як і раней,
Ды рагатала карчма.

Краіна ў кратах!
Краіна ў кратах!

Рака, што цячэ ля карчмы,
Ды каля моста мур,
Зараз чорная пляма на ім,
Пад плямай той смур.

Маўчаць тыя словы пад ёй
Ужо шмат гадоў,
Але ж кожны ведае, што
Пад чорнай плямай ізноў:

Краіна ў кратах!
Краіна ў кратах...
       ...Ізноў!
```

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеная інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 6. 12. 99 г.
Наклад 3400 асобнікаў. Замова № 3485
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 100 000 руб., 3 мес.- 300 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 25 000 руб.